# ЗВЯЗДА

*Газета выдаецца са жніўня 1917 года*

26 кастрычніка 1991 г.
СУБОТА
№ 206 (21734)
Цана 20 кап.


*Да канца падпіскі засталося 6 дзён. Выпісвайце штодзённую беларускамоўную газету!*

## Падпісана Дэкларацыя аб добрасуседстве

24 кастрычніка ў сталіцу Літвы з афіцыяльным візітам прыбыла дэлегацыя Рэспублікі Беларусь на чале са Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі С. Шушкевічам.

У вільнюскім аэрапорце яе сустракалі намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Літоўскай Рэспублікі К. Матэка, намеснік прэм'ер-міністра Літвы З. Вайшвіла, члены Прэзідыума Вярхоўнага Савета Літоўскай Рэспублікі.

У першай палавіне дня кіраўнік парламента Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіч і Старшыня Вярхоўнага Савета Літоўскай Рэспублікі В. Ландсбергіс мелі гутарку сам-насам. У Доме гасцей адбылася сустрэча прадстаўнікоў Літвы і Беларусі, на якой абмеркаваны прынцыпы палітычнага, эканамічнага і культурнага супрацоўніцтва суседніх дзяржаў.

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіч усклаў вянок да месца пахавання ахвяр 13 студзеня на Антакальнскіх могілках у Вільнюсе.

Цёпла, апладысментамі ён быў сустрэты ў парламенце Літоўскай Рэспублікі. Тут С. Шушкевіч выступіў з прамовай.

Кіраўнікі дзвюх дзяржаў падпісалі Дэкларацыю аб прынцыпах добрасуседскіх адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Літоўскай Рэспублікай.

Каменціруючы гэты факт, старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета Літвы па правах чалавека і нацыянальнасцей В. Чэпайціс сказаў: «Дакумент, які сёння падпісаны, з'яўляецца першым, вельмі важным этапам у наладжванні адносін паміж Літвой і Беларуссю, як самастойнымі дзяржавамі. Самае галоўнае, што Літва і Беларусь выступаюць як суб'екты міжнароднага права і ўстанаўліваюць у гэтай дэкларацыі прынцыпы сваіх будучых добрасуседскіх адносін.

Адзін з галоўных момантаў, які ўпамянуты ў дэкларацыі,— гэта прызнанне абодвума бакамі сваёй прыхільнасці да прынцыпаў хельсінкскага працэсу — у тым ліку, непарушнасці граніц. Я думаю, што гэта дэкларацыя стане добрым фундаментам для падпісання дагавора паміж Беларуссю і Літвой, у якім будуць урэгуляваны і іншыя адносіны. Таму што ў прынцыпе такі дагавор з Расіяй, які намі ўжо падпісаны, рэгулюе такую важную галіну адносін, як правы грамадзян Літвы і Расіі ў гэтым выпадку, а цяпер ён будзе рэгуляваць правы грамадзян у Літве і Беларусі на тэрыторыі кожнай з рэспублік».

Пасланцы Беларусі сустрэліся з членамі Таварыства культуры беларусаў Літвы «Сябрына».

Вечарам адбылася прэс-канферэнцыя.

У доме гасцей была дадзена ўрачыстая вячэра ў гонар Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

У той жа дзень С. Шушкевіч і іншыя члены дэлегацыі адбылі ў Мінск.



У час сустрэчы. Фота БЕЛТА.

# ДЭКЛАРАЦЫЯ

## АБ ПРЫНЦЫПАХ ДОБРАСУСЕДСКІХ АДНОСІН ПАМІЖ РЭСПУБЛІКАЙ БЕЛАРУСЬ І ЛІТОЎСКАЙ РЭСПУБЛІКАЙ

Рэспубліка Беларусь і Літоўская Рэспубліка

— грунтуючыся на Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР ад 27 ліпеня 1990 года і Законе аб наданні Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР статуса канстытуцыйнага закона ад 25 жніўня 1991 года, а таксама на Акце Вярхоўнага Савета Літоўскай Рэспублікі аб аднаўленні незалежнасці Літоўскай дзяржавы ад 11 сакавіка 1990 года і Канстытуцыйным акце аб Літоўскай дзяржаве ад 11 лютага 1991 года;

— улічваючы шматвяковыя традыцыі палітычных, гістарычных, эканамічных і культурных сувязей паміж Беларуссю і Літвой;

— кіруючыся прынцыпамі Статута Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і палажэннямі Заключнага акта Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе, Парыжскай хартыі для новай Еўропы і іншых дакументаў гэтай Нарады;

— усведамляючы сваю адказнасць за міжнародны мір, бяспеку, узаемаразуменне, супрацоўніцтва і ўлічваючы значэнне беларуска - літоўскіх адносін для свабоднай, дэмакратычнай і паважаючай правы чалавека Еўропы;

— выказваючы ўзаемную зацікаўленасць у развіцці добрасуседскіх адносін і ўсебаковага супрацоўніцтва паміж дзвюма дзяржавамі,

заяўляюць наступнае:

1. Рэспубліка Беларусь і Літоўская Рэспубліка грунтуюць свае адносіны на ўзаемнай павазе дзяржаўнага суверэнітэту адзін аднаго.

2. Рэспубліка Беларусь і Літоўская Рэспубліка ў сваіх адносінах кіруюцца прынцыпамі раўнапраўя, тэрытарыяльнай цэласнасці дзяржаў, неўмяшання ва ўнутраныя справы, павагі правоў чалавека, добрасуседства, узаемаразумення і ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва.

3. Рэспубліка Беларусь і Літоўская Рэспубліка лічаць прынцып непарушнасці межаў, зафіксаваны ў хельсінкскім Заключным акце, важнейшым фактарам стабільнасці ў Еўропе. Канкрэтныя пытанні дэлімітацыі беларуска - літоўскай мяжы і наступнай яе дэмаркацыі падлягаюць дакладнаму разгляду ў бліжэйшы час, і з гэтай мэтай Рэспубліка Беларусь і Літоўская Рэспубліка створаць змешаную камісію з прадстаўнікоў абедзвюх дзяржаў.

4. Рэспубліка Беларусь і Літоўская Рэспубліка прызнаюць асобую важнасць пытанняў бяспекі і будуць імкнуцца да добрага супрацоўніцтва ў гэтай галіне, да ўзгаднення дзеянняў як на двухбаковым, так і на міжнародным узроўні. Рэспубліка Беларусь і Літоўская Рэспубліка лічаць недапушчальным магчымае ўтварэнне, знаходжанне і дзеянні любых узброеных фарміраванняў на тэрыторыі аднаго з бакоў, якія падпісалі Дэкларацыю, накіраваныя супраць другога боку.

5. Рэспубліка Беларусь і Літоўская Рэспубліка будуць імкнуцца забяспечыць адпаведна літоўцам у Беларусі і беларусам у Літве правы і свабоды, роўныя правам і свабодам сваіх грамадзян.

Рэспубліка Беларусь і Літоўская Рэспубліка прызнаюць этнічную, культурную і моўную самабытнасць беларусаў у Літве і літоўцаў у Беларусі і абавязваюцца забяспечваць ім умовы для свабоднага развіцця гэтай самабытнасці і садзейнічаць іх сувязям са сваёй нацыяй у другой дзяржаве, якая падпісала Дэкларацыю. У гэтых мэтах бакі будуць імкнуцца да стварэння для беларусаў у Літве і літоўцаў у Беларусі адпаведных магчымасцей у галіне адукацыі, навукі, культуры і рэлігіі.

Рэспубліка Беларусь і Літоўская Рэспубліка забяспечаць ахову на сваёй тэрыторыі гістарычных і культурных помнікаў абодвух народаў.

6. Рэспубліка Беларусь і Літоўская Рэспубліка будуць развіваць усебаковае культурнае і навуковае супрацоўніцтва, садзейнічаць пашырэнню кантактаў паміж культурнымі і навуковымі ўстановамі, арганізацыямі, спецыялістамі і асобнымі грамадзянамі.

Праяўляючы асаблівы клопат аб выхаванні падрастаючага пакалення ў духу міру, узаемнай павагі і ўзаемаразумення паміж народамі, Рэспубліка Беларусь і Літоўская Рэспубліка будуць імкнуцца да аб'ектыўнага асвятлення гісторыі ў працэсе навучання ў сістэме дзяржаўнай і прыватнай адукацыі.

7. Рэспубліка Беларусь і Літоўская Рэспубліка будуць садзейнічаць узаемавыгаднаму развіццю гандлёвага абмену, эканамічнаму і навукова-тэхнічнаму супрацоўніцтву і ў гэтых мэтах у бліжэйшы час падпішуць гандлёва-эканамічнае пагадненне.

8. Рэспубліка Беларусь і Літоўская Рэспубліка будуць актыўна супрацоўнічаць у галіне аховы навакольнага асяроддзя і рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў, асаблівую ўвагу ўдзяляючы басейну рэк Нёман—Нерыс, групе Браслаўскіх азёр і бяспецы эксплуатацыі атамных электрастанцый, у мэтах папярэджвання трансгранічных забруджанняў і ліквідацыі іх вынікаў.

9. Усе пытанні, якія ўзнікаюць у адносінах паміж Рэспублікай Беларусь і Літоўскай Рэспублікай, будуць рэгулявацца імі ў ходзе двухбаковых кансультацый і перагавораў.

10. Рэспубліка Беларусь і Літоўская Рэспубліка будуць супрацоўнічаць на міжнароднай арэне і праводзіць кансультацыі па тых пытаннях міжнародных адносін, якія ўяўляюць для іх цікавасць.

11. Прынцыпы гэтай Дэкларацыі будуць развіты і замацаваны ў міждзяржаўным Дагаворы паміж Рэспублікай Беларусь і Літоўскай Рэспублікай.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С. ШУШКЕВІЧ.**

**Старшыня Вярхоўнага Савета Літоўскай Рэспублікі**
**В. ЛАНДСБЕРГІС.**

**Вільнюс. 24 кастрычніка 1991 года.**

# Прамова Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. С. Шушкевіча

## ў парламенце Літоўскай Рэспублікі 24 кастрычніка 1991 года

Шаноўны спадар Старшыня!

Глыбокапаважаныя спадарыні і спадары!

У парламенце Літоўскай Рэспублікі мне даводзіцца выступаць другі раз. Першы раз я быў вашым госцем у мінулым годзе як намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі, калі вы мужна абаранялі сваю незалежнасць ад путчыстаў, што імкнуліся звергнуць канстытуцыйную ўладу Літоўскай Рэспублікі.

Неаднаразовае наведванне Літвы беларускімі парламентарыямі дапамагло распазнаць праўду падзей і давесці яе да Вярхоўнага Савета Беларусі, які ў выніку гэтага адназначна асудзіў сілавыя авантуры і падтрымаў народ Літвы ў яго нацыянальна - дэмакратычным змаганні за незалежнасць.

Карыстаючыся гонарам быць сёння ў вашым парламенце, я ад імя Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь вітаю незалежную Літву, яе парламент, яе народ і жадаю ўсім вам поспехаў на тым шляху, які вы самі абралі.

Хацеў бы зараз, паважаны спадар Старшыня, сказаць асабіста Вам слова грыбокай падзякі за віншаванні і добрыя словы зычлівасці з нагоды абвяшчэння Рэспублікай Беларусь палітычнага і эканамічнага суверэнітэту, майго абрання на пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі.

Шаноўны спадар Старшыня!

Бываючы ў старажытнай Вільні, беларусу цяжка ўтрымацца ад спакусы зрабіць экскурс у гісторыю суіснавання нашых народаў, правесці паралелі паміж мінулым і сучасным, зрабіць пэўныя экстрапаляцыі, узгадаць полацкую «Пагоню» і летувіскага «Віціса», наша ваярскае братэрства пад Грунвальдам, у час паўстання 1831 і 1863 гадоў, працытаваць штосьці з шэдэўраў нашай агульнай дзяржаўна-палітычнай і юрыдычнай думкі — Статута Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага.

Ступаючы па гістарычным віленскім бруку, беларус спакваля кіруецца да тых мураванак, дзе ў сярэднявеччы лунаў дух Францішка Скарыны, дзе на пачатку нашага стагоддзя тварыў Янка Купала. Вобраз «Пагоні» і Вострай Брамы натхнілі зорку нашай беларускай паэзіі Максіма Багдановіча на такія словы:

«Старадаўняй літоўскай Пагоні
Не разбіць, не спыніць,
не стрымаць!..»

Але пакінем навукоўцам ды публіцыстам філалагічныя рэмінісцэнцыі. Жыццё вяртае нас у сённяшні дзень, схіляе хутчэй на геапалітычны роздум.

Узаемадачыненні Літоўскай Рэспублікі і Рэспублікі Беларусь — пытанне не рэгіянальнае, нават не пытанне чыста еўрапейскага працэсу, у якім афіцыйна задзейнічана зараз 38 дзяржаў. Беларусь займае геаграфічна перыферыйнае становішча адносна тэрыторыі былога Савецкага Саюза. Аднак з улікам таго, што на яе тэрыторыі пакуль знаходзіцца значная частка Узброеных Сіл і ўзбраення (у тым ліку і ядзернага) былога Саюза, праблемы далейшай палітычнай арыентацыі рэспублікі нельга аднесці ў зону маргінальных зацікаўленняў міжнароднай супольнасці.

Ці адбудзецца сапраўдная еўрапейская інтэграцыя ўвогуле, ці пачнецца яна з так званай перыферыі былога Саюза, ці пойдзе па шляху ад так званага Цэнтра — пытанне часу. Назіранні за эканамічным і палітычным развіццём у іншых рэспубліках былога Савецкага Саюза, а таксама ў нашых заходніх суседзяў схіляюць да пераканання, што большыя перспектывы мае інтэграцыя, якая пачнецца праз бліжэйшых суседзяў і звяжа Цэнтральную і Заходнюю Еўропу шчыльней перш з перыферыяй былога Саюза. Тут, відавочна, хутчэй і лягчэй пойдуць і палітычныя, і эканамічныя рэформы па ўсёй прасторы. Суседства цэнтральных і ўсходніх рэгіёнаў былога Саюза з іншымі культурна-рэлігійнымі традыцыямі і ментальнасцю будзе дыктаваць ім іншая канцэпцыя дзяржаўнасці, вайсковага будаўніцтва, знешняй і ўнутранай палітыкі.

Наш Вярхоўны Савет дэ-юрэ ўжо зрабіў свой выбар: «Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь» нададзены статус канстытуцыйнага закона. У ёй дакладна сказана «Беларуская Рэспубліка мае права на ўласныя Узброеныя Сілы, унутраныя войскі, органы дзяржаўнай і грамадскай бяспекі, падначаленыя Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь... Беларуская Рэспубліка ставіць сваёй мэтай зрабіць сваю тэрыторыю бяз'ядзернай зонай, а рэспубліку — нейтральнай дзяржавай».

Калі паслядоўна прытрымлівацца духу і літары гэтага канстытуцыйнага закона, то для Рэспублікі Беларусь сэнс пераходнага перыяду ў вайсковым пытанні набывае абсалютна выразныя абрысы ў кантэксце канстытуцыйнага працэсу. Мы маем права толькі часова заставацца ў блокавай сістэме і трымаць ядзернае ўзбраенне. Наша канцовая мэта — інтэграцыя ў бяз'ядзерную Еўропу, нейтралітэт, сістэма калектыўнай бяспекі ў сістэме Аб'яднаных Нацый. Пра будучы бяз'ядзерны пояс «Балтыя — Беларусь» у мінулым годзе на сесіі ААН ужо заявілі нашы прадстаўнікі. У Законе аб народаўладдзі ў Рэспубліцы Беларусь канстатуецца, што без ведама Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь на яе тэрыторыі не можа адбыцца ні ўвод, ні перадыслакацыя вайсковых кантынгентаў. Гэта значыць, што ўсе пытанні размяшчэння, вываду армейскіх падраздзяленняў, у тым ліку і іх часцей, размешчаных за межамі Беларусі, будуць вырашацца толькі з яе ўдзелам як суверэннай дзяржавы, а не як часткі пэўнага аб'яднання дзяржаў. Зразумела, што пры перамовах паміж Літоўскай Рэспублікай і СССР Рэспубліка Беларусь можа быць прадстаўлена толькі як самастойная дзяржава, член эканамічнага аб'яднання, ці проста назіральнік.

Пытанні нашых межаў з Літвой і нацыянальных меншасцяў, пра што я скажу больш падрабязна пазней, — справа толькі Літвы і Беларусі.

Шаноўныя спадары і спадарыні!

Сёння ў дзень ААН ад імя аднаго з яе першапачатковых членаў — Рэспублікі Беларусь — я шчыра віншую Літоўскую Рэспубліку з афіцыйным членствам у гэтай аўтарытэтнай міжнароднай арганізацыі.

У адпаведнасці з канстытуцыйным Законам аб дзяржаўнай незалежнасці Рэспублікі Беларусь наш парламент прыняў 2 кастрычніка заяву Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб прынцыпах знешнепалітычнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь», у якой пацвердзіў прыхільнасць Беларусі да прынцыпаў Статута ААН, прынцыпаў Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і міжнародных абавязацельстваў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з яе міжнароднымі дагаворамі, у тым ліку Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах і Міжнароднага пакта аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах.

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь выказаў гатоўнасць далучыцца да факультатыўнага пратакола да Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах ад 16 снежня 1966 года і прызнаць кампетэнцыю Камітэта па правах чалавека ў адпаведнасці з арт. 41 гэтага пакта.

Наш Вярхоўны Савет звярнуўся да кіраўнікоў парламентаў краін—удзельніц Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе з прапановай прыняць Рэспубліку Беларусь у якасці паўнапраўнага члена гэтай Нарады і пачаць перамовы аб знішчэнні ядзернай зброі і аб'яўленні еўрапейскага кантынента бяз'ядзернай зонай.

Спадзяюся, што ў асобе Літоўскай Рэспублікі, зараз ужо паўнапраўнага члена гэтай Нарады, Рэспубліка Беларусь знойдзе падтрымку ў гэтым нашым шчырым імкненні. Нашы дзяржавы зацікаўлены ў гэтым як непасрэдныя суседзі.

Шаноўны Старшыня!

Паколькі Літоўская Рэспубліка ўжо стала паўнапраўным членам Хельсінкскага працэсу, а Рэспубліка Беларусь таксама становіцца на гэты шлях, то адпаведна нашыя двухбаковыя адносіны павінны грунтавацца на прынцыпах Заключнага акта Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе, у тым ліку і на прынцыпе непарушнасці межаў. Адпаведна гэтаму прынцыпу мы павінны разглядаць «як непарушныя ўсе межы паміж сабой, так і межы ўсіх дзяржаў у Еўропе», і таму мы павінны «ўстрымлівацца зараз і ў будучыні ад любых спробаў змяніць гэтыя межы».

Разам з тым, як дзяржава-ўдзельнік Венскай канвенцыі аб праве міжнародных дагавораў 1969 года, у прыватнасці ў адпаведнасці з п. 1а арт. 59 і палажэнняў арт. 4 гэтай Канвенцыі, Рэспубліка Беларусь магла б лічыць магчымым весці плённы дыялог са сваімі суседзямі на ўзаемавыгаднай аснове ў духу добрай волі з улікам таго, што дзяржаўныя межы Беларусі, пачынаючы з так званага Брэсцкага міру 1918 года, потым Рыжскага мірнага дагавора ад 18 сакавіка 1921 года і нарэшце пакта Молатава—Рыбентропа 1939 года і савецка-польскага дагавора ад 16 жніўня 1945 года, вызначаліся без удзелу Беларусі. Дарэчы, на пачатку дагавор 1921 года меў афіцыйную назву «Мирный договор между Россией и Украиной, с одной стороны, и Польшей — с другой». У савецкім жа зборніку дзеючых Дагавораў, пагадненняў і канвенцый, заключаных з замежнымі дзяржавамі (вып. 1—11, 3-е изд. М. 1935 г., № 30, с. 119), ён ужо называецца «Мирный договор между БССР, РСФСР и УССР, с одной стороны, и Польской Республикой, с другой».

Разважлівы палітык сёння добра разумее розніцу паміж прадстаўніком нацыянальнай меншасці, які апынуўся ў адпаведнай дзяржаве ў выніку міграцыйных працэсаў апошніх дзесяцігоддзяў, і паміж чалавекам, продкі якога стагоддзямі жывуць у пэўным краі, але які ў сілу збегу геапалітычных абставін апынуўся за дзяржаўнымі межамі свайго этнасу, застаючыся на сваёй этнічнай тэрыторыі. З пункту гледжання правоў чалавека тут ужо дзейнічае двайное права — права нацыянальнай меншасці і права прадстаўніка карэннага насельніка, аўтахтона.

У духу Хельсінкскага пагаднення мы падпісалі і двухбаковую Дэкларацыю аб добрасуседскіх адносінах з Рэспублікай Польшча. Мы ўпэўнены, што літара закона нашых пагадненняў у нашых узаемадачыненнях будзе добра спалучацца з гістарычнымі рэаліямі.

На мінулым тыдні наш Вярхоўны Савет прыняў Закон аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь, згодна з якім грамадзянін Рэспублікі Беларусь можа мець толькі адно грамадзянства. Пытанні двайнога грамадзянства могуць разглядацца як прыватны выпадак. Грамадзянамі Рэспублікі Беларусь аб'яўляюцца ўсе жыхары рэспублікі, якія стала жывуць у Беларусі на момант уступлення закона ў сілу. Грамадзяне, бацькі і дзяды якіх нарадзіліся ў межах Беларусі, або асобы, якія нарадзіліся па-за яе сучаснымі дзяржаўнымі межамі, але ідэнтыфікуюць сябе як беларусы, маюць права прэтэндаваць на атрыманне беларускага грамадзянства без сямігадовага тэрміну віду на грамадзянства.

Спадзяюся, што двухбаковыя пагадненні паміж Літвой і Беларуссю дазволяць разумна вырашыць пытанні маёмасных і грамадзянскіх узаемадачыненняў.

Сёння мы маем намер падпісаць Дэкларацыю аб прынцыпах добрасуседскіх адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Літоўскай Рэспублікай. Бакамі прызнаецца этнічная, культурная і моўная самабытнасць беларусаў у Літве і літоўцаў у Беларусі.

Дакументам гарантуюцца ўсе ўмовы для свабоднага развіцця гэтай самабытнасці.

Ёсць добрая надзея на тое, што беларусы ў Літве, а літоўцы ў Беларусі будуць карыстацца роўнымі правамі і свабодамі, а таксама мець адпаведныя магчымасці ў адукацыі, навуцы, культуры і рэлігіі.

Погляды спадара Вітаўтаса Ландсбергіса і мае асабістыя на гэту праблему супадаюць. Яны адпавядаюць духу дзяржаўных і міжнародных пагадненняў, прынцыпам добрасуседства.

Думаю, што пытанні мяжы, мытні, памежнага транзіту, гандлю, руху замежных грамадзян і шматлікія іншыя знойдуць станоўчае вырашэнне ў ходзе працы нашых сумесных рабочых груп, што дазволіць у бліжэйшы час падпісаць змястоўнае выніковае рамачнае пагадненне паміж Рэспублікай Беларусь і Літоўскай Рэспублікай.

Хацеў бы закончыць свой выступ на лірычнай ноце. Я ўдзячны Вам, спадар Старшыня, за запрашэнне выступіць у вашым парламенце. Вы — прафесар музыкі, я — прафесар фізікі. Думаю, што па прынцыпу ўзаемадапаўняльнасці ў нашых асабістых кантактах нас будуць натхняць гармонія і прагматыка. Няхай яны служаць на карысць літоўскага і беларускага народаў.

Дзякуй за ўвагу.

# Дзе «пайка» кожнага?

### З сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

Здаецца, так і не прыжывецца гэтае нязвыклае і не вельмі зручнае для вымаўлення слова «раздзяржаўленне», на якім нярэдка спатыкаліся дэпутаты на вясновай сесіі. І справа тут не ў тым, што мы адмаўляемся ад таго працэсу, які пазначаны гэтым тэрмінам, і не ў нейкіх там лінгвістычных пошуках, а, напэўна, у больш дакладным вызначэнні самога працэсу і поўным адмаўленні, так сказаць, ідэалагічнай сарамлівасці. Месца расплывістага, сціпла-эўфемістычнага «раздзяржаўлення» цалкам займае канкрэтнае і вельмі дакладнае паняцце «прыватызацыя». І назва адпаведнага законапраекта, які быў вынесены на гэтым тыдні на абмеркаванне, набыла гэткую ж гранічную дакладнасць: «Аб прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці», або, як сказана ў першым яго артыкуле, — аб пераходзе права ўласнасці на прадпрыемствы, маёмасныя комплексы і іншую маёмасць ад дзяржавы да грамадзян і тых юрыдычных асоб, дзейнасць якіх заснавана на недзяржаўных формах уласнасці (прыватная, калектыўная, змешаная). Коратка і зразумела. Дык што, «поўны наперад» у прыватную ўласнасць, без якой і аб рыначных адносінах усур'ёз гаварыць нельга?

Ды не. Ва ўсякім разе, пакуль што. Закон так і не прыняты, нават у першым чытанні. На старшыню Камітэта па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю В. Мацюшэўскага (прычым, на яго ў першую чаргу) і старшыню Камісіі па эканамічнай рэформе Л. Козіка, якія прадстаўлялі законапраект, абрушылася нямала пытанняў. Найбольш характэрнае прагучала так: «Дзе доля кожнага грамадзяніна?» Словы В. Мацюшэўскага ў адказ: «Мы не разглядалі», вядома ж, паслужылі слабым аргументам.

Прынамсі, справа не толькі ў тым, што не была «выдзелена» кожнаму гэтая самая доля. Паспрабуем вылучыць найбольш важныя, галоўныя пытанні, якія паўсталі пры абмеркаванні законапраекта.

Па-першае: як, па якой методыцы лічыць, ацэньваць нацыянальнае багацце рэспублікі? Адсюль і наступнае пытанне, якое лагічна вынікае з першага: колькі канкрэтна павінна прыпадаць гэтага багацця на кожнага з нас, тым больш, што пэўную частку яго мяркуецца перадаць людзям бязвыплатна, праз так званыя інвестыцыйныя чэкі?

Але, аказваецца, што ацэнка кошту — гэта складана, а вучоныя раяць: вы пачынайце ацэньваць, а мы, маўляў, паглядзім, ці правільна лічылі. Дзіўны, аднак, падыход...

Па-другое (і гэта не менш важна), для таго, каб Закон аб прыватызацыі ўступіў у сілу, павінны таксама быць прынятымі законы аб прыватызацыі зямлі, жылля, аб грамадзянстве і іншыя заканадаўчыя акты. Павінна быць таксама адпаведная праграма прыватызацыі. Як выказаўся В. Мацюшэўскі, патрэбен цэлы шлейф узаемазвязаных дакументаў. Вядома, што іх лепш за ўсё разглядаць і прымаць у комплексе, менавіта такая думка часта гучала ў зале. Але, як зразумела ўжо, дэпутаты ўбачылі толькі кончык шлейфа — указаны законапраект, а не ўвесь пакет.

Варта зазначыць: закон аб прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці — найважнейшы сярод рыначных дакументаў, ён па сутнасці закладвае гэты самы рынак, увогуле карэнным чынам мяняе нашы адносіны да ўласнасці і само наша жыццё. І, вядома ж, пры яго прыняцці павінна быць улічана літаральна кожная дробязь. Разам з ім павінен быць распрацаваны канкрэтны механізм прыватызацыі, прычым гранічна просты і зразумелы кожнаму чалавеку, і менавіта да кожнага ён павінен быць давезены. З тым, каб пазбегнуць магчымага сацыяльнага напружання, каб «раздзяліць» (а гэта цяжэй за ўсё) максімальна правільна і справядліва. У працэс прыватызацыі мы ўвойдзем усе разам і ў большай частцы з прыкладна аднолькавым уласным капіталам, а вось з якім капіталам выйдзем?.. Вядома ж, тут важна ўлічыць абсалютна ўсё.

Спрэчнае пытанне: чаму працоўным калектывам трэба прадастаўляць пэўныя льготы пры прыватызацыі, як было закладзена ў праекце? А як быць настаўніку, медыку, пенсіянеру?.. І сапраўды, ці варта прадастаўляць некаму нейкія перавагі, нацыянальнае ж багацце стваралася працай усіх?

А падобныя льготы, можна лічыць, ужо дзейнічаюць. Згодна з Законам аб арэндзе адпаведныя калектывы могуць выкупляць маёмасць па астатковаму кошту. А што ж застаецца іншым, хто не на арэндзе, — рыначныя цэны?

Яшчэ адно з найбольш вострых пытанняў: трэба спыніць у рэспубліцы да прыняцця закона ўсялякую прыватызацыю, або, як яе яшчэ назвалі, — дзікую. Пры гэтым нярэдка гучала прапанова аб'явіць тыя прыватызацыйныя акты, якія ўжо адбыліся, неправамоцнымі... Праўда, як паглядзяць на гэта тыя, хто ўжо паспеў «прыватызавацца», хоць, зрэшты, праверыць законнасць падобных актаў, магчыма, і не пашкодзіць...

Ці ёсць ва ўрада канкрэтны план дзеянняў, дзе праграма прыватызацыі, каму павінен падпарадкоўвацца (Саўміну ці Вярхоўнаму Савету) Камітэт па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю, як засцерагчы будучыя інвестыцыйныя грошы на адпаведных рахунках грамадзян ад інфляцыі, — гэтыя і іншыя пытанні, якія гучалі на сесіі,— правамерныя. На іх трэба шукаць адказы. Аднак ці хутка надыдзе, так сказаць, сам працэс?

Так, спяшацца тут нельга. Але ж і марудзіць таксама. Наша эканоміка, якая выдыхаецца ўжо, — чакае-не дачакаецца карэнных змен. У дадзеным выпадку варта заўважыць: народныя дэпутаты, здаецца, усё, што звязана з прыватызацыяй, імкнуцца ўзяць у свае рукі. І няхай. Для надзейнасці. Але, можа, тое, што бясспрэчна, пакінуць усё ж ураду, з якога калі- небудзь спытаецца за выкананне праграмы стабілізацыі эканомікі і пераходу да рынку? І няхай ён дзейнічае. Напрыклад, праводзіць продаж на конкурснай, аўкцыённай аснове (вядома, з шырокай інфармацыяй насельніцтва) невялікіх прадпрыемстваў, арганізацый службы быту і г. д.?

Каб зусім не стаяць на месцы, чакаючы ўсяго «пакета» адразу. Але калі яго падрыхтуюць?

**Іван БАРАНОЎСКІ,**
**аглядальнік «Звязды».**

# Сустрэча з кіраўнікамі прадпрыемстваў

У сталіцы рэспублікі адбылася сустрэча прэм'ер-міністра Беларусі В. Ф. Кебіча з кіраўнікамі прадпрыемстваў. Яна праведзена для ўзгаднення і ўнясення паправак у эканамічныя законапраекты, падрыхтаваныя да зацвярджэння Вярхоўным Саветам рэспублікі.

Разгледжаны пытанні, якія датычаць падаткаабкладання мясцовых прадпрыемстваў, аб'яднанняў і арганізацый, перадачы прадпрыемстваў саюзнага падпарадкавання ў веданне рэспублікі, аб цэнах і заработнай плаце, дзяржзаказе.

Прэм'ер-міністр Беларусі вызначыў асноўныя напрамкі работы рэспубліканскай прамысловасці, якая з-за павышэння кошту сыравіны (ужо вядома, што ў будучым годзе Расія павысіць цэны толькі на нафту ў чатыры разы), павінна змяніцца і стаць навукаёмістай. На думку В. Ф. Кебіча, прыярытэты такія: тавары народнага спажывання, тэхніка для сельскай гаспадаркі, будаўніцтва і ахова здароўя, стварэнне ўласнага аўтамабіля.

У ходзе сустрэчы прагучала, што ў наступным годзе ўрад рэспублікі мае намер «адпусціць» цэны на прадукцыю вытворча-тэхнічнага прызначэння.

Дырэктары заводаў і фабрык, якія прынялі ўдзел у дыскусіі, выказалі спадзяванне, што зробленыя імі заўвагі і дапаўненні да праектаў законаў будуць унесены ў гэтыя дакументы да пачатку абмеркавання ў парламенце.

**А. ЛІПСКІ,**
**кар. БЕЛТА.**


ЧАС ПАДПІСАННЯ У ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ У 21.05.

